Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №7(91), ліпень, 2017г.

# ВЫНІКІ ЛІПЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ




**1 ліпеня ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбылося чарговае пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне".**

Кіруючым органам БНФ былі разгледжаныя пытаньні бягучай палітычнай сытуацыі, падрыхтоўкі і правядзеньня масавых акцыяў, падрыхтоўкі рэгіянальных сходаў па вылучэньні дэлегатаў на маючы адбыцца 30 верасьня справаздачна-выбарчы з'езд Партыі БНФ. Сойм зацьвердзіў справаздачу жаночай камісіі Сойму і прыняў заяву з нагоды правядзеньня ў Менску сэсіі Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ.

З дакладам аб бягучай палітычнай сытуацыі выступіў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. Ён **адзначыў у якасьці найважнейшай падзеі вызваленьне апошніх зьняволеных па справе патрыётаў**, што былі арыштаваныя ў сакавіку: "Мы пазітыўна ацэньваем вызваленьне патрыётаў, але падкрэсліваем, што справа па падрыхтоўцы масавых беспарадкаў і па стварэньні незаконнага ўзброенага фармаваньня была сфабрыкаваная, пашытая белымі ніткамі. Выдатна, што зьняволеныя былі адпушчаныя на волю, але сама справа пра незаконныя ўзроеныя фармаваньні ня спыненая, і стаіць задача зьняць з фігурантаў справы неабгрунтаваныя абвінавачваньні", – сказаў лідэр БНФ. Ён таксама адзначыў, што цяпер з'яўляецца відавочным хлусьлівы характар усіх тых прапагандысцкіх публікацыяў, што былі размешчаныя адразу пасьля арышту патрыётаў у дзяржаўных СМІ. "Стаіць пытанне адказнасьці прапагандыстаў, якія аблілі патрыётаў брудам. У дачыненьні да фігурантаў справы былі гучныя заявы з боку дзяржаўнага тэлебачаньня і газэтаў. На сёньня людзі вызваленыя, спадзяюся, яны не будуць асуджаныя. Тады паўстае пытаньне, ці панясуць адказнасьць прапагандысты за распаўсюд ілжывых зьвестак?" – сказаў Аляксей Янукевіч.

Аляксей Янукевіч зьвязаў вызваленьне палітвязьняў з правядзеньнем у Менску сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ. Улады вымушаныя рабіць гэткія тактычныя манэўры каб пазьбегнуць нязручнага інфармацыйнага фону для правядзеньня буйнога міжнароднага форуму. Нажаль, гэткія правілы гульні прымаюцца некаторымі замежнымі палітыкамі, і цяпер існуе пагроза паніжэньня міжнародных стандартаў АБСЭ у стасунках з афіцыйным Менскам.

Правядзеньне сэсіі АБСЭ ў Менску у сучасны момант пагражае легітымізацыяй палітычных рэпрэсіяў, якія цяпер у стасунках Эўропы з Менскам пачынаюць успрымацца як прыймальная норма.

На прапанову старшыні Партыі БНФ Сойм прыняў заяву з нагоды правядзеньня ў Менску сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ. У ёй адзначаецца несваечасовасьць правядзеньня ў сталіцы Беларусі высокага міжнароднага форума ва ўмовах, калі Менск рыхтуецца да беспрэцыдэнтных па маштабах беларуска-расейскіх вайсковых вучэньняў, стала і сыстэмна ігнаруе стандарты ў галіне правоў чалавека, не выконвае рэкамэндацыяў міжнародных і беларускіх назіральнікаў што да правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў. Сойм заклікаў удзельнікаў менскай штогадовай сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ падтрымаць вынесеныя на разгляд сэсіі праекты рэзалюцыяў, якія прысьвечаныя стану грамадзянскіх свабодаў у Беларусі і пагрозам рэгіянальнай бясьпецы. Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч заявіў, што зьмест рэзалюцыі сойму будзе даведзены да ведама ўдзельнікаў сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ як пісьмова, так і падчас ужо прызначаных сустрэчаў і кансультацыяў кіраўніцтва БНФ з парлямэнтарамі ЗША, Швэцыі, Вялікай Брытаніі, якія будуць на менскай сустрэчы.

Сярод тых дзеяньняў афіцыйнага Менску, якія не адпавядаюць духу пагадненьняў, на якіх заснаваная АБСЭ, была адзначаная **падрыхтоўка да вучэньняў "Захад-2017", што заплянаваныя на верасень і будуць суправаджацца беспрэцэдэнтнымі маштабамі перадыслякацыі ў Беларусь райсейскіх войскаў, узбраеньняў і вайсковай тэхнікі.**

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч адзначыў, што **гэтыя вучэньні не адпавядаюць нацыянальным інтарэсам Беларусі, ствараюць пагрозу тэрытарыяльнай цэласнасьці нашай краіны.** Прысутнасьць на нашай тэрыторыі расейскіх войскаў можа стварыць зручныя ўмовы для ціску на Беларусь – як паказвае досьвед Украіны, гэты ціск можа прывесьці нават да тэрытарыяльных стратаў. Нягледзячы на шматлікія абвяржэньні, застаецца пагроза таго, што нейкая частка расейскіх войскаў застаецца ў Беларусі і пасьля вучэньняў.

Правядзеньне гэтых вучэньняў стварае на-

Magistrat

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**

**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236**

**"прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

**— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання".**

**Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# ВЫНІКІ ЛІПЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

пружанасьць у стасунказ Беларусі з суседзямі, паколькі выклікае справядлівую занепакоенасьць у Польшчы, Літве, Украіне: нават сама назва вучэньняў ("Захад-2017") сьведчыць пра іх скіраванасьць супраць заходных суседзяў нашай краіны і інтэрпрэтуецца імі як недабразычлівы крок. Гэткая палітыка афіцыйнага Менску супярэчыць ягонаму імкненьню стварыць для сабе імідж донара стабільнасьці і бясьпекі ў рэгіёне.

Кампанія пратэсту супраць гэтых вучэньняў павінная быць прыярытэтнай для Партыі БНФ на бліжэйшы пэрыяд. **Старшыня Партыі БНФ заклікаў аргструктуры партыі падаваць заяўкі на правядзеньне акцыяў пратэсту ў рэгіёнах Беларусі** – адпаведныя формы заявак былі дасланыя ў рэгіянальныя структуры Управай партыі. У некаторых гарадах заяўкі на акцыі ўжо пададзеныя, напрыклад, кіраўнік слонімскай суполкі БНФ **Павал Севасцьян** падаў заяўку ў Слонімскі райвыканкам на правядзенне 23 ліпеня ў Слоніме пікету супраць вайсковых вучэнняў "Захад-2017".

Старшыня Партыі БНФ зазначыў, што напярэдадні сэсіі ПА АБСЭ у Менску і напярэдадні вайсковых вучэньняў Аляксандр Лукашэнка традыцыйна з'ездзіў на прыём да Пуціна. Гэта звыклая тактыка лавіраваньня, калі збліжэньне з Захадам патрабуе пэўных знакаў лаяльнасьці на ўсходнім накірунку. І хоць супярэчаньні паміж двума рэжымамі захоўваюцца (найперш яны яскрава бачныя ў эканамічнай сфэры), на вайскова-стратэгічным накірунку два рэжымы супрацоўнічаюць вельмі шчыльна. Нажаль, цяпер галоўны прадукт, які Лукашэнка пастаўляе ў Маскву, гэта ўжо не знакі палітычнай лаяльнасьці, а вайскова-стратэгічная лаяльнасьць, формай праявы якой і з'яўляюцца будучыя вайсковыя вучэньні.

Аляксей Янукевіч негатыўна ацаніў зьмены ў закон "Аб абароне правоў спажыўцоў", які замацоўвае магчымасьць не пазначаць на таварах інфармацыю на дзяржаўнай беларускай мове. **Дэпутаты пры прыняцьці папраўак да закону 26 чэрвеня ў першым чытаньні вырашылі не абавязваць вытворцаў зьмяшчаць на ўпакоўцы беларускіх тавараў інфармацыю на беларускай мове.** Таксама не абавязкова карыстацца беларускай мовай у сферы паслуг. Пры гэтым паводле стандартаў Эўразійскага саюза пазначэньне інфармацыі пра тавары на рускай мове з'яўляецца абавязковым.

Будзе другое чытаньне закону, і да гэтага другога чытаньня ёсьць магчымасьць распрабаваць унесьці неабходныя зьмены. На прапанову намесьніка старшыні Партыі БНФ **Ігара Лялькова** Сойм даручыў намесьніку старшыні Партыі БНФ **Рыгору Кастусёву**, які з'яўляецца памочнікам дэпутата палаты прадстаўнікоў **Алены Анісім**, садзейнічаць таму, каб пры другім чытаньні законапраекту патрабаваньне пра абавязковае пазначэньне інфармацыі пра тавары на беларускай мове было вынесенае на разгляд Палаты прадстаўнікоў і было ўключанае ў закон.

І пры правядзеньні вайсковых вучэньняў, і пры адмове ад замацаваньня абавязковага пазначэньня інфармацыі на таварах па-беларуску, паводле старшыні БНФ Аляксея Янукевіча, праяўляецца заганнае разуменьне сёньняшнім кіраўніцтвам краіны пытаньня сувэрэнітэту і незалежнасьці: **"Калі цяперашнія ўлады кажуць быццам бы пра ўмацаваньне сувэрэнітэту і незалежнасьці, яны найпер маюць на ўвазе ўмацаваньне свайёй бюракратыі, а не ўмацаваньне рэальнага дзяржаўнага сувэрэнітэту, не умацаваньне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці.** У гэтым праяўляецца антынародны і антынацыянальны характар гэтай улады. Нашая місія, місія Беларускага народнага фронту, палягае ў тым каб супрацьпаставіць бюракратычнаму разуменьню незалежнасьці сапраўдны народны сувэрэнітэт, адстойваньне нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, кансалідацыю беларускай нацыі не вакол бюракратыі, а вакол нацыянальнай ідэнтычнасьці" – сказаў Аляксей Янукевіч.

Сябра Сойму Кастусь Смолікаў задаў кіраўніцтву партыі пытаньне пра сыуацыю з каардынаваньнем дзеяньняў у дэмакратычных сілах у сьвятле з набліжньнем мясцовых выбараў. У адказ старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч адзначыў, што цяпер як такі адзіны суб'ект дэмакратычныя сілы адсутнічаюць – кожная палітычная сіла працуе ў сваім накірунку. Частка аб'яднаньняў робіць разлік на тое, што сацыяльна-эканамічныя пратэсты будуць нарастаць і ізноўку разгорнуцца ўвосень. Аднак каардынаваньне высілкаў напярэдадні мясцовых выбараў пакуль застаецца толькі на ўзроўні супольнага назіраньня у межах кампаніі Права выбару-2018, сузаснавальніцай якой выступіла і Партыя БНФ.

З ініцыятвы сябры Сойму **Вадзіма Болбаса** кіруючым органам партыі

# ВЫНІКІ ЛІПЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

абмеркаванае магчымае зьмяненьне заканадаўства Расеі пра грамадзянства, якое прадугледжвае магчымасьць спрошчанага наданьня грамадзянства Расейскай Фэдэрацыі ўсім асобам, народжаным на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу. Патэнцыяйна гэткая зьмена заканадаўства можа служыць дадатковай падставай для агрэсіі Расеі пад прыкрыцьцём быццам бы абароны сваіх грамадзян на тэрыторыі іншых краінаў. Сойм даручыў палітычнай камісіі сачыць за развіцьцём сытуацыі ў гэтай справе.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч давёў да ведама сойму інфармацыю пра пісьмовае папярэджаньне, атрыманае партыяй за акцыю 25 сакавіка на сёлетні Дзень волі і пра вынікі абскарджваньня ў Вярхоўным судзе. Нягледзячы на тое, што пры разглядзе ў судзе скаргі міністэрства юстыцыі не прадставіла аніякіх доказаў парушэньня заканадаўства, апроч публікацыяў у інтэрнэце (у тым ліку не было рашэньня кіруючага органа партыі пра даручэньне заяўніку акцыі арганізаваць яе ад імя партыі), суд пакінуў папярэджаньне ў сіле. Склалася парадаксальная сытуацыя: заяўнік сёлетняй акцыі, старшыня Менскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ **Зьміцер Касьпяровіч**, не быў прыцягнуты да адказнасьці і застаецца не вінаватым у будзь-якіх парушэньнях заканадаўства пра масавыя акцыі, а партыя атрымала за акцыю, заяўнікам якой выступаў сп. Касьпяровіч, пісьмовае папярэджаньне.

“Праз уціск і перашкоды мы вымушаныя падаваць заяўкі на масавыя акцыі ад імя фізічных асобаў, каб юрыдычна адвесьці пагрозы санкцыяў ад партыі. Але паколькі, як цяпер мы бачым, мінюст усё роўна трактуе партыю як арганізатара акцыі, выносіць папярэджаньне і папярэджаньне пакінутае ў сіле вярхоўным судом – то цяпер мы можам не хавацца за юрыдычныя штучныя канструкцыі, бо пры гэтым рэжыме права не дзейнічае – і цяпер мы можам прызнаць што так, мы сьвяткавалі і будзем сьвяткаваць дзень волі 25 сакавіка” – сказаў Аляксей Янукевіч. Лідэр БНФ адзначыў што за паўторнае падобнае парушэньне мінюст можа падаць у вярхоўны суд пазоў на ліквідацыю партыі альбо на яе часовае прыпыненьне дзейнасьці – але і такое рашэньне будзе цалкам палітычнае, не абгрунтаванае на законе.

Аляксей Янукевіч адзначыў, што парушальнікамі ў працэсе падрыхтоўкі да 25 сакавіка былі не арганізатары, і не апазыцыйныя палітычныя партыі – а Менгарвыканкам, які не даў дазвол на правядзеньне акцыі ў вызначаны законам тэрмін, і міліцыянты, якія беспадстаўна збівалі ўдзельнікаў мірнай акцыі пратэсту.

Сойм Партыі БНФ прыняў да ведама пісьмовае папярэджаньне Міністэрства юстыцыі, яго копія накіраваная тэрытарыяльным аргструктурам. Сойм таксама заклікаў улады, у тым ліку Менгарвыканкам, паважаць свабоду мірных сходаў і не забараняць негвалтоўныя масавыя мерапрыемствы.

Старшыня Партыі БНФ сказаў, што **для дэмакратычных сілаў вельмі важна адказна падрыхтавацца да наступнага 25 сакавіка і адзначэньня стогадовага юбілею БНР**. Неабходна пазьбегнуць сытуацыі гэтага года, калі было некалькі сцэнароў акцыі і некалькі каардынацыйных цэнтраў. Асноўным суб’ектам па арганізацыі адзначэньня стагоддзя БНР павінны стаць нацыянальны аргкамітэт, каардынатарам якога выступае мастацкі дзяяч **Мікола Купава**, і ў склад якога ўваходзяць Аляксей Янукевіч, Алена Анісім ды іншыя палітыкі і грамадзкія дзеячы.

Да Сойма была даведзеная інфармацыя пра судовы працэс па абароне гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі кіраўніка Гарадзенскай арганізацыі Партыі БНФ **Вадзіма Саранчукова**, які падаў пазоў супраць гарадзенскай тэлерадыёкампаніі, што дэманстравала паклёпніцкія фільмы пра гарадзенскіх дэмакратычных дзеячоў. Сойм пастанавіў на падставе артыкула 78 Грамадзянска-працэсуальнага кодэкса накіраваць у суд прадстаўніка грамадзкасьці для удзелу у працэсе, які павінны распачацца 6 ліпеня.

На пасяджэньні Сойму было адзначана, што да 27 ліпеня, у гадавіну абвяшчэньня дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, Партыя БНФ традыцыйна ладзіць **уручэньне памятнага знака імя Віктара Івашкевіча**. Ужо ў чацьвёрты раз памятным знакам будуць уганараваныя асобы, што спрычыніліся да арганізацыі і правядзеньня масавых акцыяў у Беларусі. Старшыня Партыі БНФ заклікаў сябраў Сойму актыўна вылучаць намінантаў, дасылаючы інфармацыю ва ўправу.

Сойм разгледзіў арганізацыйныя пытаньні падрыхтоўкі да маючага адбыцца 30 верасьня XVIII З’езду Партыі БНФ. Паводле зацьверджанага пляну, управай былі вызначаныя гарады, дзе адбудуцца сходы і канфэрэнцыі па вылучэньні дэлегатаў з’езду. Сходы павінныя адбыцца ў перыяд ад 1 ліпеня па 24 верасьня 2017 году, але не паўсюль яшчэ прызначаныя канкрэтныя даты – старшыня БНФ заклікаў арганізацыйныя структуры апэратыўна, цягам бліжэйшых двух тыдняў, вызначацца з графікам правядзеньня сходаў і паведаміць меркаваныя даты сходаў і канфэрэнцыяў ва ўправу. Арганізацыйным структурам партыі і Управе дадзеныя даручэньні па арганізацыі падрыхтоўчай працы да Зьезду з улікам неабходнасьці забесьпячэньня роўных умоваў для ўсіх патэнцыйных кандыдатаў, што маюць намер вылучацца на пасаду старшыні Партыі БНФ.

Намесьніца старшыні Партыі БНФ, кіраўнічка жаночай камісіі Партыі БНФ **Вольга Лагвіновіч** прадставіла Сойму справаздачу аб дзейнасьці жаночай камісіі. Спадарыня Лагвіновіч адзначыла, што за мінулыя тры гады праца па жаночым накірунку ў Партыі БНФ актывізавалася: жаночая камісія актыўна ўдзельнічала у выбарчых кампаніях 2015 года (збор подпісаў і назіраньне) і 2016 года (збор подпісаў, вылучэньне кандыдатак і агітацыйная кампанія, праца даверанымі асобамі, праца ў выбарчых камісіях, назіраньне). Была дадзеная справаздача пра стварэньне і дзейнасьць міжнапрыйнай платформы Жаночая сетка “Мара”, правядзеньне цыклю сэмінараў па жаночым лідарстве ў рэгіёнах Беларусі, стварэньне базы дадзеных актывістак, у тым ліку новых актыўных жанчын у рэгіёнах. Рашэньнем Сойму праца жаночай камісіі Партыі БНФ была прызнаная здавальняючай.

На наступным пасяджэньні Сойму Партыі БНФ, якое павінна адбыц-

# ВЫНІКІ ЛІПЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

ца ў жніўні, кіруючаму органу партыі павінныя даць свае справаздачы моладзевая, праўнааналітычная, міжнародная і палітычная камісіі, а таксама Управа як выканаўчы орган партыі.

У "Розным" з прапановы сябры сойму **Барыса Вырвіча** было вырашана правесьці да 27 ліпеня, у гадавіну абвяшчэньня дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь, акцыю ўганараваньня асобаў, якія спрычыніліся да здабыцьця незалежнасьці Беларусі. Сярод іншага, мяркуецца ускласьці кветкі да памятных мясьцінаў, будынкаў і помнікаў. Управе даручана прапанаваць сьпіс месцаў для ўскладаньня кветак.

narodny.org

# ЗАЯВА ПАРТЫІ БНФ З НАГОДЫ СЭСІІ ПАРЛЯМЭНЦКАЙ АСАМБЛЕІ АБСЭ Ў МЕНСКУ

**Прынятая Соймам Партыі БНФ 1 ліпеня 2017 году**

Правядзеньне ў Менску 26-й штогадовай сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ з'яўляецца несваечасовым, паколькі адбываецца ва ўмовах, што супярэчаць духу і сутнасьці пагадненьняў, на якіх заснаваная АБСЭ.

Заплянаванае на верасень 2017 года правядзеньне на тэрыторыі Беларусі супольных з Расейскай Фэдэрацыяй вучэньняў "Захад-2017" ва ўмовах развязанага Расеяй канфлікта ва Ўсходняй Украіне зьяўляецца недабразычлівым крокам, ня служыць інтарэсам міру і бясьпекі ў рэгіёне, шкодзіць статусу Менску як нейтральнай пляцоўкі для перамоваў дзеля ўрэгуляваньня канфлікту ў паўднёва-усходніх абласьцях Украіны і, па-сутнасьці, небясьпечна патурае агрэсіўнай палітыцы Расеі, што гвалтоўным чынам прывяла да фактычных тэрытарыяльных стратаў для шэрагу краінаў рэгіёну. Асабліва трывожным сігналам зьяўляецца беспрэцэдэнтны маштаб заплянаваных вучэньняў, якія прадугледжваюць перадыслякацыю ў Беларусь надзвычайна вялікай колькасьці вайскоўцаў, зброі і вайсковай тэхнікі. Правядзеньне сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ пры такіх умовах зьяўляецца ўскоснай легітымацыяй дзеяньняў, якія не адпавядаюць прынцыпам АБСЭ і не спрыяюць захаваньню міру, бясьпекі і стабільнасьці ў рэгіёне Усходняй Эўропы.

Пастаянныя і сыстэмныя парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, адсутнасьць свабодных і сумленных выбарчых працэдураў таксама не адпавядаюць прынцыпам АБСЭ ў гуманітарным вымярэньні. Правядзеньне сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ пры наяўнасьці ў краіне палітычных вязьняў, і, асабліва, відавочна сфальсіфікаванай уладамі крымінальнай справы супраць беларускіх патрыётаў, зьяўляецца небясьпечным патураньнем палітычным рэпрэсіям у Беларусі.

Партыя БНФ зьвяртае ўвагу Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ, што пасьля аднаўленьня ў 2004 годзе сяброўства Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у складзе Парлямэнцкай Асамблеі ніводныя выбары ў нашай краіне не былі праведзеныя у адпаведнасьці са стандартамі АБСЭ, а у тым жа годзе у Беларусі быў праведзены чарговы нелегітымны рэфэрэндум.

З улікам выкладзенага, Партыя БНФ

– **Выказвае** шкадаваньне з прычыны таго, што сёняшнія ўлады Беларусі ў супрацоўніцтве з міжнароднымі структурамі аддаюць перавагу фармальнаму боку, але пры гэтым не выконваюць сутнасных прынцыпаў, на якіх заснаваныя міжнародныя арганізацыі.

– **Заклікае** ўрад Беларусі вызваліць усіх зьняволеных на падставе палітычных матываў, спыніць крымінальны перасьлед патрыётаў, што былі затрыманыя ў сакавіку бягучага году, а таксама надалей выконваць узятыя на сабе абавязальніцтвы ў галіне правоў чалавека, уключна з абавязальніцтвамі ў гуманітарным вымярэньні АБСЭ і стандартамі АБСЭ датычна правядзеньня выбараў, у тым ліку ўнесьці ў Выбарчы кодэкс зьмены, скіраваныя на выкананьне рэкамэндацыяў унутраных і міжнародных назіральнікаў.

– **Патрабуе** ад уладаў Беларусі адмовіцца ад правядзеньня сумесных з расейскім войскам вучэньняў "Захад-2017", альбо, прынамсі, істотна абмежаваць маштабы вучэньняў, адмовіўшыся ад беспрэцэдэнтных маштабаў прысутнасьці ў Беларусі расейскіх вайскоўцаў і тэхнікі.

– **Вітае** ўвагу эўрапэйскіх парламентароў да сытуацыі ў Беларусі і заклікае удзельнікаў менскай штогадовай сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ падтрымаць вынесеныя на разгляд сэсіі праекты рэзалюцыяў, якія прысьвечаныя стану грамадзянскіх свабодаў у Беларусі і пагрозам рэгіянальнай бясьпецы.

# "ПРАПАГАНДЫСТЫ ПАВІННЫЯ АДКАЗАЦЬ ЗА ХЛУСНЮ"

**Афіцыйныя прапагандысты павінны несці адказнасць за распаўсюд ілжывых зьвестак пра беларускіх патрыётаў, заявіў інфармацыйнай агенцыі БелаПАН старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч па выніках пасяджэння сойма БНФ, што адбыўся 1 ліпеня ў Менску.**

«Мы пазітыўна ацэньваем вызваленне патрыётаў, але падкрэсліваем, што справа была сфабрыкаваная, пашытая белымі ніткамі. Выдатна, што зьняволеныя былі адпушчаныя на волю, але стаіць задача зняць з іх абвінавачванні», – сказаў лідэр БНФ.

Камітэт дзяржбяспекі ўзбудзіў крымінальную справу па факце навучання і падрыхтоўкі да ўдзелу ў масавых беспарадках. Было затрымана больш за 30 чалавек – былыя актывісты спартыўна-патрыятычнага клуба «Белы легіён» (арганізацыя спыніла сваю дзейнасць больш за 15 гадоў таму), афіцыйна зарэгістраванага клуба «Патрыёт» і не зарэгістраванага ў Беларусі «Маладога фронту». Пасля ў дачыненні да некаторых абвінавачаных змянілі меру стрымання (падпіска аб нявыездзе, хатні арышт). Пазней у дачыненні да часткі абвінавачаных было прад'яўлена дадатковае абвінавачанне па артыкуле 287 КК (стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання).

Апошнія фігуранты справы былі вызваленыя 30 чэрвеня, хоць абвінавачванні з іх не знятыя.

«Стаіць пытанне адказнасці прапагандыстаў, якія аблілі патрыётаў брудам. У дачыненні да фігурантаў справы былі гучныя заявы з боку дзяржаўнага тэлебачання і газет. На сёння людзі вызваленыя, спадзяюся, яны не будуць асуджаныя. Тады паўстае пытанне, ці павінны несці адказнасць прапагандысты за распаўсюд ілжывых зьвестак?» - сказаў Аляксей Янукевіч.

«Беларускія Навіны»